Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён.
Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

# ІСКРА

Выходзіць тры разы у тыдзень.

Перамена адрэса 30 грошы.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 7. Вільня, Субота, 27-га чэрвеня 1925 г. Год І.

## Перастройка фронту.

Зямельная рэформа ў Польшчы, якую мае *замяніць* выпрацаваны ўрадам закон аб парцэляцыі і асадніцтве, займае ў гэты мамэнт усе партыі і групы як у Сойме, так і ў грамадзянстве. Урад за ўсякую цану хоча ратаваць польскіх абшарнікаў,—вымагаючы ад іх, як „дабравольнае ахвяры“, толькі невялікае часткі іх зямлі, якая, датаго мае быць ужыта перад усім дзеля засяленьня „Крэсаў“ *польскімі асаднікамі.*

Ясна, што гэтак пастаўленая справа разьвязаньня зямельнага пытаньня, пазбаўляючы беларускае і ўкраінскае сялянства магчымасьці здабыць так неабходную яму, ад вякоў паліваную мужыцкім потам, зямлю, — мае *ня толькі сацыяльнае значэньне,* але і *нацыянальнае.* А ў сувязі з гэтым бачым цікавыя крокі, зробленыя польскім урадам у яго нацыянальнай палітыцы.

Справа ў тым, што ў Сойме *проці* ўрадавага закону аб парцэляцыі і асадніцтве выступаюць—побач з беларусамі і ўкраінцамі — ня толькі польскія радыкальныя партыі, якія хочуць, каб польскі селянін дастаў *больш,* чым яму суліць урад, але і прадстаўнікі польскіх абшарнікаў, якія хочуць даць *менш,* чым урад — за ратунак панскіх двароў ад поўнае ліквідацыі—вымагае сёньня ад іх. Дык лёсы гэтага закону—вельмі няпэўныя.

Разьлічаючы, што разам з беларусамі і ўкраінцамі могуць галасаваць *проці* закону і другія меншасьці—жыды і немцы, урад і надумаў разьбіць гэту еднасьць „меншасьцяў“ і прыцягнуць на свой бок перад усім *жыдоў**). І вось—за нейкія, дагэтуль падробна няведамыя абяцанкі ўраду жыдоўскім дэпутатам, — жыдоўскі пасольскі клюб гатоў перайсьці на бок ураду, пакінуўшы старое сяброўства з апазіцыяй.

Паўтараецца тое, што ў сваім часе зрабіў урад ген. Сікорскага. Ген. Сікорскі, як цяпер браты Грабскія, абяцаў беларусам і ўкраінцам здаваленьне іх зусім слушных культурна-нацыянальных дамаганьняў, і за гэта беларускі і ўкраінскі клюбы даволі лёгкамысна і неаглядна падтрымалі яго ўрад сваімі галасамі. Але, як толькі ўрад ген. Сікорскага ўмацаваўся, дык зараз-жа „забыўся“ аб усіх сваіх абяцанках і пасулах, ды пачаў па старому вясьці палітыку ўціску беларусаў і ўкраінцаў.—Мы ня ведаем, ці тое-ж зробяць цяпер браты Грабскія з жыдамі, — але такі канец выдаецца нам вельмі магчымым: пасьля правядзеньня ўрадавага закону аб зямлі ў Сойме галасамі жыдоўскіх дэпутатаў, з „вольнасьцямі“ для жыдоў можа стацца тое, што сталася з „знамянітымі“ языковымі законамі для беларусаў і ўкраінцаў, — законамі, якіх пры іх выданьні зусім дарэмна так зайздросьцілі нам жыды: яны-ж на практыцы зьведзены да нуля....

Выхад жыдоў з „меншасьцёвай“ апазіцыі выклікае вельмі паважную перамену ў укладзе партыйных сіл у Сойме. Адаб‘ецца ён, трэба думаць, і на ўнутраным жыцьці „меншасьцёвых“ клюбаў.

Дагэтуль, як ведама, клюбы нацыянальных меншасьцяў, ідучы адзіным фронтам проці варожае да „меншасьцяў“ палітыкі польскае дзяржавы, злучалі—кожын у сабе — усе палітычна-сацыяльныя групы сваей нацыянальнасьці. Цяпер, пасьля разьбіцьця адзінага фронту „меншасьцяў“, пачынаюць разьбівацца і паасобныя нацыянальныя клюбы.

Яшчэ раней група найбольш радыкальных сацыяльна дэпутатаў выступіла з агульна-украінскага клюбу. Цяпер, як паведамляе П. А. Т. (--беспасрэднага паведамленьня ад нашых дэпутатаў мы йшчэ ня маем), з беларускага пасольскага клюбу выйшлі дэпутаты: Браніслаў Тарашкевіч, Пётр Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі і Павал Валошын, якія стварылі асобную парляманцкую фракцыю пад назовам *„Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“.*

Новая фракцыя, пэўне-ж, апублікуе сваю дэклярацыю, выясьняючы прычыны гэтага кроку і праграму сваей далейшай працы. І мы, не ўваходзячы пакуль-што ў ацэнку таго, што сталася, адзначаем гэты факт, як праяву перастройкі палітычных групіровак у Сойме наагул. Перастройка гэтая, трэба думаць, будзе адбывацца ўжо не паводле нацыянальнага прынцыпу, а *сацыяльнага.*

А гэта—йшчэ адзін знак, што ў Польшчы наагул *барацьба сацыяльна-клясавая* пачне адыгрываць вялікшую ролю, да чаго няўхільна вядзе ўсё цяжэйшы *эканамічна-гаспадарчы крызіс.*

*) Трэба тут адзначыць, што жыдоускі клюб складаецца выключна з прадстаунікоу жыдоускае буржуазіі.

## Эканамічная вайна Нямеччыны з Польшчай.

Чым далей, то ў усё хутчэйшым тэмпе выходзіць Эўропа з таго штучнага, ненармальнага, фантастычнага сьвету, у які загнаў яе Вэрсальскі Трактат, створаны панічным, сьмяротным страхам слабасільнай Францыі перад пабітай, але непераможанай Нямеччынай. Пабілі Нямеччыну супольнымі і саюзнымі сіламі дзесятак наймагутнейшых дзяржаваў сьвету, а абавязак вартаваць пабітую, утрымліваць яе ў стане бяссільля — усе пакінулі пасьля амаль не адну Францыю! Дык і трэба было стварыць такія варункі ў Эўропе, каб зусім перавярнуць уверх нагамі заўсёды ў прыродзе, і ў палітычным жыцьці істнаваўшы натуральны лад—**вольнай канкурэнцыі...** Вольная канкурэнцыя, з бязьлітаснай і няўхільнай у ёй перамогай біалягічна, эканамічна і духова мацнейшага,—як гэта ні смутна для слабейшых,—адзіны пакуль-што і найпэўнейшы шлях і залог прагрэсу.. І спыніць яе, спыніць барацьбу, стварыўшы штучную сыстэму нейкіх „вечных правоў“ і „вечных прывілеяў“—блудная, хворая думка,—фантастычная задача...

Менш усяго гэта можна зрабіць якраз тымі мерамі і спосабамі, якімі праз увесь час, пасьля перамогі, карысталася Францыя.—Найблуднейшым спосабам утрыманьня перамогі і перавагі ў нашы часы зьяўляецца якраз той, які выбрала Францыя з сваімі васаламі: спосаб **ваеннай сілы.** Каму ня ясна цяпер, пасьля вайны, што ўтрымліваньне вялікіх гатовых арміяў—гэта ж найпэўнейшы спосаб руйнаваньня краю, рабленьня яго няздольным вытрымаць сколькі — небудзь даўжэйшую вайну?!.. Мілітарызацыя краю—найпэўнейшы спосаб якраз—**прайграць вайну,** да якой гатуешся...

І вось на нашых вачох праходзіць гэты штучны і фантастычны пэрыяд сусьветнай гісторыі; яе „антракт“ канчаецца, і няўхільныя правы вольнай канкурэнцыі пачынаюць трыўмфаваць ізноў... І ізноў, як да вайны,—у цэнтры эўрапэйскага жыцьця становіцца найбольш малады, найбольш моцны і творчы з усіх бакоў, непераможны арганізм — Нямеччына...

Нямеччына захоплівае ізноў, як да вайны, ініцыятыву эканамічную і палітычную ў свае рукі, спрытна карыстаючыся, як і да вайны,—непрымірымымі супярэчнасьцямі англійскіх і французскіх інтарэсаў, і—зусім спакойна, неабмыльна—вырахавана і напэўна б‘е — на ўсіх сусьветных пляцоўках.—Англію французскімі рукамі, а Францыю — англійскімі... Найцікаўней, што як Францыя, так сама і Англія добра разумеюць і зусім ясна бачаць гэта. Але—усе-ж такі зрабіць нічога ня могуць. Коратка кажучы, цяпер прыходзіць **гістарычная чарга.** Нямеччыны — „заняць свае мейсца пад сонцам“ і — сказаць свае слова сьвету.. Бо **Нямеччына—мае што сказаць і зрабіць...**

---

На нашых вачох пачынаецца барацьба Нямеччыны і, так сказаць, на другарадным пляне—у больш „правінцыяльным кутку“ Вэрсальскай Эўропы—**барацьба яе з Польшчай.**

На гэтым другарадным пляцдарме патроху спыняюцца тыя штучныя варункі, у якія была пастаўлена „натуральная канкурэнцыя“. Апошняя ўваходзіць у свае правы і адразу паддае вялікай бязлітаснай спробе—запраўдную сілу і трываласьць усяго, што стварылася ў гэтым кутку, у гэтых „інспэктах“—за гэтыя гады яе адсутнасьці...

---

10 студня скончыўся тэрмін тых аднабокіх эканамічных прывілеяў для ўсіх саюзьнікаў—коштам Нямеччыны, якія былі прымусова накінуты апошнай трактатам.

15 чэрвеня скончыўся тэрмін таксама прымусовага „дагавору,—аб бязмытным увозе ў Нямеччыну польскага вугальля і железа, які быў накінуты Нямеччыне пасьля падзелу Сілезіі, у 1922 годзе.

Нямеччына кінула вызаў; Польшча, можа, лішне пасьпешна і лёгка, прыняла яго... Як заўсёды бывае, нападаючы, выбраўшы самы найбольш выгадны для яго мамэнт, сам, мае ўжо дзеля гэтага вялікую перавагу...

Сам міністар таргоўлі і прамысловасьці Польшчы сцьвярдзіў у сваім экспозе журналістам, што „сучасны мамэнт для Польшчы—з пагляду на гаспадарчы крызыс, а асабліва дзеля ад‘емнага таргавага балянсу,—выняткова некарысны“ — дзеля эканамічнай барацьбы з Нямеччынай... Дык перад усім ясна, што Польшча **не прыгатавалася** зусім да барацьбы, веручы ў „вечнасьць“ сваіх прывілеяў, у „усемагутную“ Францыю, ды ў „зруйнаваньне назаўсёды“ Нямеччыны; ясна і тое, што **Нямеччына добра прыгатавалася** і б‘е „наверняка“...

---

Справа ў тым, што, адабраўшы ў Нямеччыны і аддаўшы Польшчы Верхнюю Сілезію, саюзьнікі змусілі Нямеччыну — у мэтах, каб Польшча магла ўтрымаць гэты багаты вугальлем раён,— да бязмытнага пропуску ў Нямеччыну вугальля з польскай часткі Сілезіі.

І вось цяпер урадавы вугальны камісар Нямеччыны **зачыніў нямецкую граніцу для польскага вугальля.**

Які гэта ўдар для Польскай Сілезіі, для польскай дзяржаўнай гаспадаркі наагул, зразумее кожны, калі даведаецца, што каменнае вугальле—**адзін з галоўных прадметаў вывазу Польшчы,** і што галоўная частка гэтага вывазу ішла якраз **у Нямеччыну.** Сам міністар падаў такія лічбы: з усяго вывезенага за першы квартал гэтага году вугальля ў колькасьці 2430 тысячаў тонн—у Нямеччыну пайшло 1433 тысячы тонн, гэта значыць шмат **больш паловы** ўсяго вывазу. А калі прыняць пад увагу, што для сваей патрэбы Польшча пакідае вугальля вельмі мала, дык можна сказаць прыблізна, што вугальная прамысловасьць Польшчы амаль нэ напалову працавала дагэтуль **дзеля Нямецкага рынку.** І вось гэты рынак раптам і адразу—„неспадзевана“ зачынены.. Гэтым перад усім катастрафічна павялічываецца **безработцьце ў Польшчы,** і без таго ўсё больш пагражаючае эканамічнаму ладу і сацыяльнаму міру ў краі. Гэтым катастрафічна пагаршаецца і без таго ўжо небясьпечна-дрэнны балянс краю, — павялічваецца яго гаспадарчы дэфіцыт, грозны для фінансавай раўнавагі краю.

Міністар пацяшае тым, што ўрад ужо „пачаў... шукаць новых рынкаў для польскага вугальля, якое калісьці (!) знойдзе для сябе спажыўца заграніцай“.. Можа, калісь і знойдзе, зразумела... Якую надзею рэальную запраўды можна на гэтыя рынкі мець **цяпер,**—бо-ж справа гэтая — актуальная — **пільная,** ляпей за ўсё кажуць паданыя паслом Дыамандам даныя аб вугальнай „кан‘юнктуры“ наагул у Эўропе ў сучасны мамэнт.

„На жаль (для Польшчы), вугальля цяпер **вялікі лішак на ўсім сьвеце.** Запасы яго ў капальнях—вялізарныя, і ўсюды работнікаў звальняюць у вугальнай прамысловасьці“. Дык кожны зразумее, што значыць для Польшчы страціць **у гэткі мамэнт** такі вялізарнай ёмкасьці і важнасьці рынак, як нямецкі; зразумее і тое, што можна, праўда, **„шукаць“,** але немагчыма **знайсьці** ў такі час „новыя рынкі“, як абяцуе польскі міністар...

---

# Хроніка.

**Яшчэ адзін юбілей.** Сёлета мінае 10 гадоў ад дня нарадзін першае беларускае пачаткавае школы.

Школа гэтая была адчынена ў часе нямецкай акупацыі—13 лістапада 1915 года—ў Вільні ў доме № 44 пры Сьвята-Юрскім праспэкце (цяпер вул. Ад. Міцкевіча). Арганізатарам быў Беларускі Камітэт помачы ахвярам вайны.

Напамінаючы нашаму грамадзянству аб гэтым важным культурным юбілеі, спадзяемся, што названы Камітэт разам з Цэнтральнай Школьнай Радай, Т-ва Беларускае Школы паруціцца аб тым, каб, як належыць, адсьвяткаваць дзень 13 лістапада.

**Беларускі пратэст проці конкордату.** „Słowo“ даведываецца з Коўны, што старшыня Беларускае Нацыянальнае Рады падаў папе вельмі востры пратэст проці конкордату з Польшчай, якім вельмі пакрыўджаны беларусы.

**Беларускія падручнікі — лацінікай.** Міністар асьветы п. Ст. Грабскі заказаў вучыцелю п. Любічу-Маеўскаму апрацаваньне беларускага лемэнтара і першага чытаньня, якія будуць надрукаваны коштам міністэрства — **лацінскімі літэрамі.** Гэтымі падручнікамі будуць карыстацца ў тых „двуязычных“ школах, якія п. Грабскі мае паадчыняць з пачатку новага школьнага году, ламаючы свой уласны закон з 31. VII. 24 г. аб дапушчэньні чыста беларускіх школ.

**Юдава работа.** Беларускія часопісі ня раз зьмяшчалі карэспандэнцыі аб тым, як беларуская вёска бароніцца ад апалячываньня праз розныя польскія „кулкі“ і тэатры. Польскія прадстаўленьні на вёсцы байкатуюцца сялянамі, сьвядомымі свайго нацыянальнага абавязку.

Вось-жа, каб усё-ж такі шырыць польшчыну праз сцэну, банда, з‘арганізаваная „доктарам“ Павлюкевічам, за юдавы срыбнікі занялася арганізацыяй мяшаных **польска-беларускіх** спэктакляў. Як піша „Kur. Wil.“, павлюкевічаўскія агенты — нейкі Шыбут з Сіняўкі і Корбут—з‘арганізавалі ў в. Дунайчыцах, Нясьвіжскага павету, гэткі польска-беларускі спэктакль, паставіўшы адну беларускую п‘еску і дзьве польскія.

Як бачым, п. Павлюкевіч „працуе“ точна па „двуязычнаму“ рэцэпту п. Ст. Грабскага. Вось, на што былі дадзены „жывой нябожчыцы“ так-званай „Часовай Беларускай Радзе“ 500 злотых падгучнай фірмай: на „беларускі“ тэатр!...

**З турмы проста ў Сойм.** З Наваградку пішуць, што старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу Рагуля паведаміў седзючага ў Наваградзкім вастрозе кандыдата па сьпіску № 16 Сабалеўскага аб тым, што ён мае заняць мейсца злажыўшага мандат п. Кахановіча, як дэпутат ад Наваградзкага вокругу.

Характэрна гэтая „казённая кватэра“ ў Польшчы—для тых, каго беларускі народ абдорывае сваім найвышэйшым даверыем...

**Ізноў „актывісты“!** „Słowo“ выясьнае склад рэдакцыі „бутэрброднае“ беларускае часопісі „Сялянская Воля“, якая пачала выхадзіць у Баранавічах. За рэдактара падпісаны тамака Уладзімер Гоголь, але фактычным рэдактарам быццам-то зьяўляецца Міткевіч, галава партыі беларускіх „актывістаў“. Заступнікам яго мае быць „беларускі літэратар і гісторык“ Зенкевіч.

„Słowo“ толькі тут нешта, відаць, наблутала з іменьнямі, бо кажа аб **Уладыславе** Міткевічу, калі галавой „актывістаў“ зьяўляецца **Аўген** Міткевіч, вядомы ў Горадні ў сувязі з растратамі грамадзкіх грошы ў тамтэйшым беларускім прытулку, захопленым „актывістамі“. Таксама і Зенкевіча, як літэратара і гісторыка, мы ня ведаем, а ведаем Земкевіча, — дык ці-ж бы гэта быў ён?

**За прыкладам Вільні.** Польскія газэты пішуць, што ў Горадзенскай польскай гімназіі амаль не паўтарылася тая-ж „бомбавая трагедыя“, якая сталася ў Вільні.

Уратавала гмах гімназіі і ўсю „пэдагагічную“ раду толькі тое, што ў гэтым „Садоме“ знайшоўся адзін „праведнік“—адзін вучыцель, якога моладзь любіла... Дык яго аднаго і папярэдзілі, каб ён ня йшоў у... „совет нечестивых“... А той, зразумела, папярэдзіў аб рыхтаваным узрыве ўладу...

Адначасна паведамляюць з Слоніма, што тамака некалькі слабейшых вучняў, якім пагражаў „правал“ на выпускных экзаменах, паслалі вучыцелю Барысэвічу пісьмо, папераджаючы, што, калі будзе „рэзаць“, дык яго заб‘юць. У дзень раздачы атэстатаў, калі выявіліся рэзультаты „рэзаньня“, „зрэзаныя“ вучні ўначы падкраліся да кватэры Барысэвіча ды праз вокны пачалі страляць з рэвальвэраў і кідаць вялікія каменьні. Кватэра зьнішчана, але „пэдагог“ астаўся цэлы...

**Чытайце і пашырайце сваю беларускую газэту**

**Прачытаўшы, аддай другому!**

## Грамадзяне падпішчыкі!

**Добра ведаеце, скольні ўжо пашло газэт беларускіх на той сьвет, дзякуючы частым канфіскацыям. Ня лепшы лёс спаткаў толькі што нарадзіўшуюся нашу газэту „Іскру“: з першых трох нумэроў два былі сканфіскаваны! Для нас—гэта забойства. Газэта ня ў сілах пакрываць вялізарныя страты ад гэтага, якія могуць давясьці і нашу часопісь да перадчаснае сьмерці. Наша газэта служыць беларускаму працоўнаму сялянска-работніцкаму народу. Дык Ваш абавязак да гэтага не дапусьціць. Споўніце свой прад ею абавязак! Сьпяшыце прысылаць грошы, хто вінават газэце.**

**Рэдакцыя.**

# Карэспандэнцыі.

### З жыцьця Дзісьненшчыны.

Аб парадках на „фальварках“ с. п. пана Гонсёровскага вельмі многа пісалася ня толькі ў бел. прэсе, але на‘т і ў роднай яму—польскай, На гэтых „фальварках“ і кралі, і куплялі сьвіней, забаўляліся ў палітычную паліцыю, білі дзяцей, а часам і іхніх бацькоў, урэшце ўзяліся за бомбы і рэвальвэры, пачалі вешацца і труціцца—наагул, як належыцца ў гаспадарцы, гдзе „культура“ пачала выліваццa праз берагі. Кажуць: які верх, такі і спод—і які спод, такі і верх. Дык і на малых „фальварках“ „культура“ ажно прэць.

Гэтак і ў Празароцкай школе (Дзісенск. пав.) неяк ня вельмі „культурна“. Летась застрэлілася вучыцелька Гурная, — але запісалі, што выпадак быў ад „неасьцярожнага“ абходжаньня з рэвальвэрам; толькі-ж „неасьцярожнасьць“ была цікавая, бо куля трафіла проста ў вісок... Ня гэтак даўно ў той-жа школе вучыцелька Марыя Довмонт гэтак-жа „неасьцярожна“ напілася нейкай атруты, бо, калі выбілі дзьверы, дык „неасьцярогу“ знайшлі на падлодзе — сярод красак (усё-ж харашэй і культурней) блізу бяз знаку жыцьця, але пасьля доўгіх стараньняў „неасьцярогу“ адратавалі ад сьмерці.

Цяпер М. Д. тлумачыць, што яна была „bardzo zdenerwowana“ і дастала спазмаў (ад вялікае дозы хініна). Як яно ні было, але зьявішча даволі характэрнае дзеля польскай школы, бо яшчэ аб гэтакай „культуры“ ў беларускіх школах нешта ня чуваць. Гдзе ўжо нам раўняцца!

— У гадзіны нашага „райскага“ жыцьця — апрача бесканечных падаткаў, яшчэ зьбіраюць часам і „самахвотныя“ ахвяры на ўсялякія мэты. Зьбіралі на аэрапляны, на „macierz szkolną“, на рэпатрыянтаў, на інвалідаў — (чытай—асаднікаў). Ня гэтак даўно ў адным мястэчку зьбіралі на нейкую „wycieczkę“ вучняў народнае школы. Але гэтакага збору, які здарыўся ў м. Празароках Дзісен. пав., — дык яшчэ пэўна ніхто і нідзе ня чуў.

Войт тамтэйшае гміны, пан Стшалковскі (той самы, што адмаўляўся сьведчыць дэкляраціі на белар. школу і трэбаваў за гэта аплаты) арганізаваў збор ахвяр (па падпісным лістам) на „przyjęcie“ дэлегата ўраду п. Рачкевіча, які аб‘яжджае Дзісенскі павет. Але толькі не пашанцавала пану войту паказаць сябе перад начальствам, бо аб гэтым зборы „ахвяр“ даведаўся Дзісенскі староста і прызываў да сябе „беднага“ войта“, і вельмі „honorowy“ пан Стшалковскі, як кажуць, пасьля гэтае бяседы быў „bardzo zdenerwowany“. (Усюды „нэрвы“ — каб іх ужо палярыш!). Што назьбіралі на „przyjęcie“ пана дэлегата, добра ня ведама, але, як казала адна пані з маёнтку, якой сьмела можа паверыць і пан дэлегат, дык яна сама бачыла адзін падпісны аркуш, гдзе ў ліку ахвяр значылася: булка хлеба, 1/8 ф. гарбаты, палачка цыкорыі, 1/2 klg. кілбасы і ажна... 30 грошаў.

Ну, чым ня шчодрасьць „прыраджоных“? Але яно сабе—зьбірайце на здароўе, толькі Вільні і часам Варшаве ня шкодзіць ведаць, як кампрамітуюць у вачах на‘т польскага грамадзянства вышэйшую ўладу яе ніжэйшыя падуладныя.

**Зязюля.**

# Беларусы у Латвіі.

### Т-ва беларусаў-выбаршчыкаў.

20 травеня гэтага году Міністэрства Ўнутраных Спраў у Рызе зацьвердзіла статут новага беларускага Таварыства, якое мае мэтай аб‘яднаць беларусаў для выбарчае кампаніі.

Т-ва павінна аб‘яднаць беларусаў ня толькі дзеля выбараў у Дзяржаўны Сойм Латвіі, але і дзеля выбараў у гарадзкія, павятовыя і валасныя самаўрады.

З гэтага поваду Таварыству дадзены назоў:

„Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў у Дзяржаўны Сойм, гарадзкія, павятовыя і валасныя самаўрады ў Латвіі“.

Утварэньне гэтага Таварыства закладае, нарэшце, асяродак, каля якога могуць згуртавацца раськіданыя да гэтага часу паасобныя беларускія выбаршчыкі.

Ужо адчынены аддзелы Т-ва ў Дзьвінску, Рызе, Люцыне і Краслаўцы.

### „Беларуская Хата“ у Дзьвінску.

У Дзьвінску адчыніўся Аддзел Рыжскага культурна-прасьветнага Т-ва „Беларуская Хата“.

### Кангрэс беларускага вучыцельства.

Канфэрэнцыя вучыцялёў-беларусаў гораду Дзьвінску і ягонага павету, што адбылася, як мы ўжо паведамлялі, месяц таму назад 25 травеня ў Дзьвінску, намеціла было на 21—22 чэрвеня Ўселатвійскі Кангрэс беларускага вучыцельства ў горадзе Рызе.

З просьбай аб скліканьні гэтага Кангрэсу Дзьвінская Канфэрэнцыя зьвярнулася да Міністэрва Прасьветы.

Аднак, Міністэрства да гэтага часу Кангрэсу ня склікала.

У зьвязку з гэтым ёсьць думка склікаць Кангрэс па ініцыятыве беларускага культурна-прасьветнага Т-ва „Беларуская Хата“.

### Гвалты ўлады над беларусамі.

Дамаганьне беларускіх культурных установаў, каб латвійскі ўрад узяў назад загад аб высылцы з Латвіі найбольш выдатных нашых культурных дзеячоў: Івана Краскоўскага, Андрэя Якубецкага і Паўліны Мядзёлка-Грыб, якіх суд апраўдаў у ўзьведзеных на іх абвінавачанях, — урадам не споўнена. Першым двум толькі прадоўжаны тэрмін высылкі, апошняя-ж ужо выехала.

„Голас Беларуса“ аб выезьдзе П. Мядзёлкі піша:

Вучыцелька П. Мядзёлка-Грыб, чакаючы адмены высылкі з Латвіі, падала заяву аб адсрочцы першпачаткова прызначанага тэрміну высылкі. Міністэрства Ўнутраных Спраў адсрочыла ёй высылку на два тыдні.

Калі прыйшоў апошні тэрмін і ўсё яшчэ ня было адказу на просьбы „Беларускае Хаты“ і „Руні“, П. Мядзёлка-Грыб паспрабавала атрымаць візы на выезд у Літву і Чэхію. У гэтым ёй было адмоўлена.

Тады П. Мядзёлка-Грыб узяла візу ў Радавую Беларусь, куды ўжо і выехала.

Беларуская эміграцыя і беларуская нацыянальная меншасьць у Латвіі страцілі дужа карысную і вялікую нацыянальна-культурную сілу.

Дзеля таго, што вызначаны на 21-ае гэтага чэрвеня **Агульны Сход Беларускага Грамадзянскага Сабраньня** не адбыўся з прычыны адсутнасьці кворума сяброў Сходу, Урад б. Беларускага Грамадзянскага Сабраньня гэтым запрашае ўсіх сяброў Сабраньня **на другі агульны сход, які адбудзецца 28-га чэрвеня г.г. а 4-ай гадз. дня** ў памешканьні Цэнтр. Школьн. Рады (Віленская 12, 6).

Парадак дня: Бягучыя справы: 1) аб разглядзе па сутнасьці пытаньня ліквідацыі Беларуск. Грамадз. Сабраньня; 2) выбары Ліквідацыйнае Камісіі.

Сход, згодна статута, будзе лічыцца правамочным пры кожным ліку сяброў.

**Урад быўш. Беларускага Грамадзянскага Сабраньня.**



Рэдактар-Выдавец: **М. Гэрмановіч.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.